 



## РАЗМОВА З ЧЫТАЧОМ

# АБ УСІМ ПАТРОХУ, А РАЗАМ-НІ ПРА ШТО?..

Каб абыйсьціся бяз лішніх словаў, дык наша мова будзе аб канцэпцыі «Пагоні». Рэгулярна выйшлі яшчэ толькі два нумары газэты, а ўжо зьявіліся яе шчырыя прыхільнікі, а таксама й скэптыкі. Вядома ж, адныя і другія — з лягеру неабыякавых да Адраджэньня людзей, бо астатніх беларускамоўная прэса цікавіць ня болей за нямецкую або кітайскую. Паспрабуйма разабрацца ў сітуацыі.

Усім, па-мойму, вядома, што стварылася «Пагоня» дзеля таго, каб зьліквідаваць прагал на газэтнай мапе рэгіёну, інакш кажучы, існавала патрэба мець у Горадні беларускую паводле мовы й духу газэту. І вось нарэшце спраўдзіліся мары, зьнікла адначасова падстава для нараканьняў. Дык што ж мы бачым? Частка чытачоў, кожны на свой капыл пачынае круціць носам й выказваць незадавальненьне ўжо сваёй, беларускай, хоць і кволай яшчэ, газэтай. Зьява нармальная. Але прааналізуйма іх асноўныя аргумэнты.

Закід першы: памылкова разьлічваць на чытача, які ўжо прывучаны да чытаньня беларускае прэсы. Маўляў, патрэбна бульваршчына, нават самая прымітыўная. Пачакайце. Перадусім, газэта заснавана рэгіянальным аддзяленьнем Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», прычым мова йшла аб тым, каб знаёміць землякоў з жыцьцём беларусаў у блізкім й далёкім памежжы й наадварот — паведамляць іх аб нашых падзеях. Мы, дарэчы, якраз і імкнемся выконваць гэтую сваю вымогу, у двух нумарах распавялі пра музычны фэстываль «Басовішча» у Польшчы, пра міжнародную канфэрэнцыю ў Маладзечне і г. д. Заўважу таксама: само ЗБС ня мае ў Менску свайго выданьня, таму мы яшчэ мацней усьведамляем сваю адказнасьць.

Далей. Каб дамагчыся таго, каб нашай газэтай зацікавіліся людзі, якія дагэтуль не чыталі беларускай прэсы, трэба ўперад атрымаць давер тых, хто ўжо чытае па-беларуску, а гэта значыць, выйсьце ў нас адно: рабіць «Пагоню» якаснай. Мне наогул больш даспадобы шлях ад якасьці да колькасьці, а не марныя спробы зрабіць усё наадварот. Вось мы якраз і спрабуем на меру свайго ўменьня й магчымасьцяў рабіць сваю газэту цікавай і зьмястоўнай.

Цяпер пытаньне аб тэлепраграме. Некаторыя лічаць, што яна, калі мы яе будзем друкаваць, моцна падвысіць нам тыраж. Спрэчнае меркаваньне. Паглядзіце на іншыя гарадзенскія газэты (заўважу: рускамоўныя!), якія друкуюць праграму ўсіх магчымых тэлестудый. Іхні тыраж не перавышае 5 тысячаў паасобнікаў. У нас — 2 тысячы. Можа, ТВ й дапамагло б нам друкаваць яшчэ штук 500, але мы й так гэтага даможамся, калі будзем рабіць газэту цікавай. А пагатоў, навошта польская праграма жыхару Менска, Магілёва, Масквы, пецярбургская — беластаччаніну і ўся праграма разам, прыкладам, сп. Я. Запрудніку з Новага Ёрку? Друкаваць тэлепраграму ёсьць сэнс, калі толькі зьявіцца фінансавая магчымасьць выдаваць «Пагоню» штотыдзень. Ці патрэбна вам праграма толькі на два тыдні месяца? І яшчэ адзін вытворчы сакрэт. Каб мець расклад тэлеперадач цалкам на беларускай мове, патрэбна аднаму з журналістаў сядзець дзень у друкарні й перакладаць яго з «агульнапрынятай» мовы. А, між тым, нас і так мала.

Настаў чарод пагаварыць пра бульваршчыну. Мы не адмаўляемся ад крымінальных паведамленьняў. Аднак задача журналістаў — не апускацца да самых нізкіх патрэб і густаў, а ўзьнімаць патрэбы, паляпшаць густы. Возьмем прыклад «Гродненских новостей». Пад самай шыльдай друкуюцца фота грудастых кабет або малюнак голага азадка са спушчанымі нагавіцамі ці сякера, зь якой кропле кроў. Ці можна друкаваць штосьці падобнае пад нашай шыльдай з гэрбам Пагоня, а галоўнае — ці існуе такая патрэба? Каб жа гэта яшчэ значна падвышала тыраж, а так жа ён усяго 5 тысяч на амаль 300-тысячны па насельніцтву горад. Рабіць такую ж самую газэту, але на беларускай мове, няма сэнсу, усё адно будуць купляць рускую.

У газэтнай вітрыне горада ёсьць некалькі месцаў: для вабласной афіцыйнай газэты, для гарадзкой бруковай, для газэты польскае меншасьці, для драбнейшых выданьняў. Мы таксама маем выконваць менавіта сваю, вызначаную нам ролю: беларускай, незалежнай, грамадзка-палітычнай газэты. Беларуская, нескалечаная мова, беларускі погляд на падзеі ў сьвеце й дома, беларускі вольны дух. Таму, шаноўныя чытачы, ня трэба навязваць нам чужую ролю, кожнаму наканавана выконваць сваю. Але гэта ня значыць, што мы адмаўляемся паведамляць пра злачынствы альбо штось падобнае, не. Абы гэта было цікава. Мы робім стаўку на зьмястоўнасьць, на якасьць. Я перакананы, што калі нас будуць цаніць, дык менавіта за ўласны погляд на рэчы, а зусім не за тое, калі мы будзем імкнуцца быць падобнымі на ўсіх, але так і не набудзем уласнага аблічча. Гэта няпросты шлях, але іншага ў нас няма.

**Рэдактар.**

# ШТО ЧУВАЦЬ У ПОЛЬСКІМ СОЙМЕ?

На пачатку верасьня пасьля летніх вакацый зноў сабраўся для працы Польскі Сойм. Паслоў чакала навіна: у соймавай зале ўсталявана новая машына падліку галасоў, якая каштавала ажно 6 мільярдаў злотых. Зрэшты, гэты выдадак плянаваўся ў бюджэтным лісьце.

Старая машына працавала 20 год, таму насьпела аб'ектыўная патрэба яе замяніць. Новая дазваляе прасачыць, як прагаласаваў кожны з паслоў. Аднак яна ўсё ж пакідае магчымасьць прагаласаваць за суседа, калі той у сваю адсутнасьць пакіне калегу ўласную магнэткартку.

* * *

Пасол ад Саюзу дэмакратычнай лявіцы сп. Маніцкі ўнёс пярэпалах у соймавыя шэрагі, бо прапанаваў разгледзець на пасяджэньні праэкт закона аб «дэсалідарызацыі» польскага грамадзтва. Як потым высьветлілася, гэта быў папросту жарт. Такім чынам пасол ад СЛД хацеў, па ягоных словах, крыху асьцюдзіць галовы самых апантаных прыхільнікаў праэкту закону аб дэкамунізацыі.

Цікавае прызнаньне з нагоды апошняга дакумэнту належыць міністру абароны РП. Ён засьведчыў, што калі закон аб дэкамунізацыі будзе прыняты, гэта моцна пагоршыць абароназдольнасьць Польшчы. Справа ў тым, што тады давядзецца звольніць з войска ўсіх гэнералаў і амаль усіх палкоўнікаў, паколькі большасьць зь іх навучалася ў савецкіх вайсковых акадэміях, куды немагчыма было трапіць, не ўступіўшы ў ПАРП.

* * *

Паведамім яшчэ пра адзін соймавы скандал. Пасол Л. Мачульскі, які ўзначальвае Канфэдэрацыю незалежнай Польшчы, яшчэ ўзімку, калі абмяркоўвалася роля ПАРП ва ўвядзенні 13 снежня 1981 г. вайсковага стану, наступным, вельмі арыгінальным чынам разшыфраваў гэтую абрэвіятуру: Платныя Здрайцы Пахолкі Росьі (па-польску — «PZPR»). Паколькі гэта было сказана публічна, нашчадкі гэтай партыі — прадстаўнікі СЛД у Сойме падалі на сп. Мачульскага заяву ў суд. Але што ты тут зробіш, калі сама ПАРП болей не існуе, як, скажам, і тая ж КПСС.

**С. АСТРАВЕЦ.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# АБКАМ ВЫХОДЗІЦЬ З «ПАДПОЛЬЛЯ»

Нядоўга працоўным Гарадзеншчыны давялося гібець без сваіх спрадвечных абаронцаў — камуністых. У Горадні зноў створаны абкам капэбэ. Старая песьня: былі абкамы ў 19-м, 39-м, 42-м (падпольны), у 44-м, потым у 92-м (зноў «падпольны») й нарэшце яшчэ адзін, вельмі легальны. Партыя называлася па-рознаму. РСДРП, КПП (КПЗБ, ВКПБ, КПСС) КПБ. Цяперашняя абрэвіятура — такая ж, як і апошняя, толькі літары ў іншым парадку. Як вядома, ад зьмены складнікаў у матэматыцы вынік застаецца нязьменным. Ведаем таксама зь вядомай байкі аб тым, што як ні сядай квартэт няздатных музыкаў, мэлёдыі ня атрымаецца...

Ня шмат, аднак, засталося ў нас прыхільнікаў «самае прагрэсіўнае ідэі», усё адно як якіх-небудзь філятэлістаў. У вобласьці ўступіла ў адноўленыя шэрагі ажно... 2 тыс. ахвотных, інакш кажучы, кожны 600-ы жыхар. Леташнія паказчыкі зьменшыліся ў дзясяткі разоў. Значыцца, абсалютная большасьць былых членаў пляваць хацела на гэтую партыю, адно стварала фармальную колькаснасьць шэрагаў. Мыльная бурбалка лопнула.

Цікава, што былы першы сакратар абкаму Сямёнаў на новых выбарах «праляцеў», ягонае месца заняў былы выкладчык гісторыі капээсэс, які дасканала вывучыў усе хібы ў тактыцы бальшавікоў, таму можна спадзявацца цяпер толькі посьпеху. Зрэшты, пачынаюць «новыя» па-старому. Іхні галоўны козыр — рост цэнаў, які нам учынілі былыя цэкакапэбоўцы, якія ўтульна атабарыліся ў саўміне. У 17-м усё атрымалася выдатна. Сёньня «новыя» зноў апэлююць да люмпэну. Значыцца, зноўку павінна атрымацца? Сьмеху варта: «новыя» камуністыя маюць змагацца са старымі. Бальшавікі зь меншавікамі. Значыцца, БНФ ужо ня «вінаваты» у нашых бедах? Мядзьведзь, мусіць, у лесе памёр...

Што датычыць легалізацыі камуністых, дык гэты крок пры сваёй непэдагагічнасьці ўсё ж, мусіць, слушны. Кантраляваць лацьвей легальныя структуры. Хай пацешацца пэнсіянеры. Як бы ім не хацелася, суд над бальшавізмам адбываецца. У Маскве. Ня ведаем, ці стане ён новым Нюрнбэргскім працэсам, але такі судовы працэс непазьбежны ў гісторыі. За злачынствы заўжды чакае расплата. Іншага не бывае.

Ня трэба, напэўна, рабіць трагэдыі з існаваньня камуністых. Як любіў казаць былы гэнсек, у нас «сацыялістычны плюралізм думак». Праўда, у ЦК КПБ гэтае цытаты ня прызнавалі. Але бог зь ім, мы не такія, як яны. Ёсьць у нас філяфаністы, шахматысты, будысты, кінолагі, ёсьць і камуністыя. Стварылі свой 24-асабовы абкам, абралі бюро абкаму і сакратароў абкаму, усё як мае быць. Няхай сабе пацешацца пэнсіянеры.

**Д. К.**

# СУСТРЭЧЫ З ФОН РЫБЭНТРОПАМ

*Юозас УРБШЫС — міністр замежных справаў даваеннай Летувіскае Рэспублікі, сьведка й удзельнік падзеяў, якія прывялі, між іншым, да чарговага перадзелу гэтае зямлі, калі Польшча зьнікла з мапы Эўропы, а Летува спачатку страціла Клайпэду, пазьней далучыла Віленскі Край, а потым ператварылася ў Літоўскую ССР...*

*Нядаўна ў архівах КДБ знойдзены пратаколы допытаў Ю. Урбшыса. Частку іх друкуе віленская газэта «Вакарынэс Науйенос». Пазнаёмцеся з вытрымкай зь яе.*

«... Па прыбыцьці да Бэрліну я адразу меў сустрэчу з фон Рыбэнтропам і яго супрацоўнікамі. Пад час яе йшла размова толькі пра Клайпэду. Дагавор пра перадачу Клайпэдскага Краю Германіі быў падпісаны ноччу 22 сакавіка 1939 году.

На другі дзень фон Рыбэнтроп у мой гонар фундаваў сьняданьне ў гатэлі «Адлон». За сьняданьнем мы размаўлялі. Рыбэнтроп апавядаў, як ён маладым лейтэнантам ваяваў на летувіскай тэрыторыі супраць расейскае царскай арміі. Прыгадваў назвы мясцовасьцяў, дзе яму прыйшлося быць. Потым загаварыў пра нядаўні візыт да Польшчы, пахваліў Варшаву, але выказаў сумнеў, што палякі так моцныя ў ваенных адносінах, асабліва з увагі на грамадны працэнт нацыянальных меншасьцяў у польскай дзяржаве, якія, на яго думку, ня будуць ваяваць і гінуць за Польшчу, тым болей, што Польшча ня здолела вырашыць пытаньні адносінаў паміж дзяржавай і нацыянальнымі меншасьцямі. Далей фон Рыбэнтроп прыгадаў нямецкага празаіка Густава Фрэйтага і сказаў, што на яго кнігах вырасла новая нямецкая нацыя... Міністр парэкамэндаваў мне адзін зь яго раманаў — сапраўды, на другі дзень я атрымаў кнігу. Там апісваліся адносіны палякаў і немцаў на памяжоўі ў першай палове XIX стагодзьдзя. Палякі, асабліва магнаты й шляхта, выстаўляліся там вельмі адмоўна. Мне было зразумела жаданьне Рыбэнтропа падкрэсьліць непрыязьнь немцаў да Польшчы. Польска-нямецкі канфлікт насьпяваў. Як стала вядома пазьней, у гэты ж дзень Рыбэнтроп патрабаваў ад польскага пасла ў Варшаве Ліпскага аддаць Гданьск.

Наступны раз я быў у Бэрліне ў траўні 1939 году... Летувіска-германскі гандаль упаў да нуля, ад чаго эканоміка Летувы несла страты. Цяпер, пасьля перадачы Германіі і Клайпэды, гандлёвыя перагаворы, аднак, замарудзіліся па дзьвюх прычынах: па-першае, Германія хацела мець фактычна манаполію на гандаль зь Летувой, па-другое, немцы хацелі, каб мы згадзіліся на ўтварэньне ў Клайпэдзе свабоднай нямецка-летувіскай эканамічнай зоны — немцы хацелі паказаць сьвету, што акупацыя Клайпэды зроблена імі ў інтарэсах Летувы й ледзь не па яе просьбе...

Рыбэнтроп пераконваў, што больш ніякая небясьпека Летуве не пагражае. Рыбэнтроп кляўся, што больщ няма аніякіх прэтэнзыяў да Летувы. Пасьля гэтага ён літаральна абрынуўся на Польшчу, якая адкінула ўсе нібыта «лібэральныя» прапановы немцаў наконт Гданьска й «калідору» — мы прапановы робім раз, сказаў фон Рыбэнтроп, і болей не паўтараем. Польская прэса піша, што польскае войска можа ўзяць Бэрлін, піша пра пашырэньне тэрыторыі Польшчы коштам Германіі. Польскія ўлады зьдзекуюцца са сваіх жа грамадзян нямецкай нацыянальнасьці, нават зьбіваюць іх... Польшчу ахапіла вар'яцтва. Бэк — разумны чалавек, але ён, як відаць, ня вольны на пасадзе міністра замежных справаў. Ну й на каго Польшча спадзяецца: на Англію? На Францыю?! Ні адна, ні другая не дапамогуць Польшчы...

Такім быў маналёг фон Рыбэнтропа, з чаго я зрабіў высновы, што вайна непазьбежна».

**НАШ КАМЕНТАРЫЙ. У гэтай частцы ўспамінаў сп. Урбшыса варта адзначыць ацэнку фон Рыбэнтропам прычынаў польскай «слабасьці». Гэта наплявацельства на справы нацыянальных меншасьцяў ды тую асаблівасьць міжваеннай Польшчы, што там гэтыя меншасьці,— украінцы, беларусы, жыды, расейцы, немцы,— складалі мала ці не палову «обыватэлі польскіх»...**

**Нават фон Рыбэнтроп на гэта зьвярнуў увагу. А «крэсовыя» магнаты, паны, паўпанкі, ксяндзы, настаўнікі, выслугачы — не! І варшаўскі урад, залежны ад іх жа — не! Чым скончылася, вядома...**

**Другі момант. Ані Англія, ані Францыя тады польскай арміі сапраўды рэальна не дапамаглі... Змова гітлераўскай Германіі й сталінскага СССР спрацавала безадказна. А нядаўна сумна вядомы Уладзімір Вольфавіч Жырыноўскі, жытомірскі жыдок, але «спаситель России», адправіўся ў Германію на сустрэчу зь недабітымі фашыстамі. Балтыю, Беларусь, Польшчу, Украіну ды Чэха-Славаччыну зноў думаюць падзяліць паміж сабой. Чаму? А бо «яны» — гэта мы! — там «грызуцца»...**

**Палітыка заўжды вечная, як сама зямля. Калі сягоньня расеец называе «братам» беларуса, а немец абяцае аказаць гаспадарчую дапамогу паляку, прыходзяць і прыходзяць у галаву самыя розныя думкі...**

**А толку з таго, калі мы грыземся паміж сабой!**

**А. Ф.**

 

## ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА:

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

*Распачаўся новы навучальны год. На Беларусі робяцца першыя крокі да адраджэньня нацыянальнай школы. З гэтай нагоды некалькі пытаньняў да загадчыка аддзелу народнай адукацыі Гарадзенскага гарвыканкама А. Г. Дудзіна.*

**— Анатоль Георгіевіч, напэўна, адна з самых хвалюючых задач у адукацыі — беларусізацыя школы. Як яна адбываецца!**

— Якраз напярэдадні першага верасьня «Настаўніцкая газэта» апублікавала канцэпцыю нацыянальнай беларускай школы, акрамя таго, існуе яшчэ некалькі варыянтаў гэтай канцэпцыі, якая накіравана на адраджэньне нацыянальнай школы ў рэспубліцы.

Зараз у Горадні 23 беларускія школы. Праўда, па-сапраўднаму беларускімі яны стануць праз дзесяць гадоў, таму што толькі зь мінулага года і толькі зь першых клясаў мы пачалі навучаньне ўсіх прадмэтаў па-беларуску. Старэйшыя клясы будуць скончаць школу на расейкай мове навучаньня.

Значна зьмянілася афармленьне ў школах, зараз, як і належыць, яно робіцца па-беларуску.

**— Відаць, ніколі не забудуць гарадзенцы, як у мінулым годзе ў адзінаццатай школе некалькі бацькоў на чале з дэпутатам Рудэнка ўчынілі суд, каб іх дзеткі не навучаліся па-беларуску. Ці здарыліся такія інцыдэнты сёлета!**

— У гэтым годзе таксама прыходзіла некалькі бацькоў з дзесятай школы з заявай, каб навучаньне працягвала заставацца на рускай мове. Можа і яны яшчэ пойдуць у суд, але наша пазыцыя цьвёрдая: у горадзе існуюць вызначаныя школы (напрыклад № 8, 14, 28) з расейскай мовай навучаньня, і калі ёсьць жаданьне, каб іх дзеці навучаліся там, ніхто гэтага не забараняе.

**— Як да гэтага ставяцца настаўнікі!**

— На жаль, не ўсе пакуль разумеюць дзяржаўную палітыку беларусізацыі школы, некаторыя нават лічаць, што гэта зьява часовая. Але большасьць пэдагогаў ужо зараз рыхтуецца да таго, каб у далейшым працаваць на належным узроўні. Вядома, цяжкасьці будуць, але я ўпэўнены, што паступова пераход да беларускай мовы навучаньня дасьць добрыя вынікі. Тым больш, у кожнага, хто жадае працаваць далей у школе, ёсьць магчымасьць і час авалодаць мовай.

**— А як цяпер справы з новымі падручнікамі!**

— Не вельмі добра. Асабліва нас трывожыць сітуацыя ў пачатковых клясах. Хоць міністэрства нас запэўніла, але да гэтага часу мы яшчэ шмат чаго не атрымалі. Складваецца такое ўражаньне, быццам мы забягаем наперад, не стварыўшы належных умоў. Да прыкладу, ў пятай клясе замест «Апавяданьняў па гісторыі СССР» увялі новы курс «Гіторыі Беларусі», але няма ня толькі падручнікаў, праграмы, няма нават распрацовак, мэтадычных матэрыялаў. Атрымліваецца, мы зноў рапартуем, што ў нас ёсьць беларусізацыя, але на самай справе мы да гэтага не падрыхтаваны.

**— У Горадні, відаць, ёсьць заявы ад бацькоў, якія б хацелі, каб іх дзеткі атрымалі адукацыю на польскай мове. Ці існуе такая магчымасьць!**

— У мінулым навучальным годзе ў горадзе існавалі дзьве клясы, дзе ўсе прадметы выкладваліся па-польску. Зараз у нас ёсьць дамоўленасьць з Саюзам палякаў, што мы можам адчыніць такія клясы ў васьмі школах. На сёньняшні дзень іх існуе толькі шэсьць, бо паступіла толькі 75 заяў ад бацькоў.

Сёлета прыехалі нават чатыры настаўнікі з Польшчы, якія перад гэтым удзельнічалі ў спэцыяльным конкурсе, каб трапіць сюды. Мы па просьбе бацькоў пайшлі і на гэта, хоць і сваіх кадраў у нас хапае. У гэтым годзе будзе выпуск ва ўнівэрсітэце, ў Ваўкавыскім педвучылішчы. Але больш складаная праблема ў тым, што гэтыя дзеці ня маюць пэрспэктывы. Скончаць яны школу з польскай мовай навучаньня, а што далей, куды яны пойдуць? Усе вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы ў нас у рэспубліцы будуць толькі на беларускай мове, як у Польшчы — на польскай мове. Таму зараз ёсьць бацькі, якія забіраюць заявы і хочуць, каб дзеці навучаліся ў беларускіх школах, а польская мова была толькі як асобны прадмэт.

**— Які лёс спасьціг акцябрацкія, піянэрскія і камсамольскія арганізацыі!**

— У нас ёсьць Закон аб адукацыі, які забараняе палітычныя арганізацыі ў школе. Былыя піянэрважатыя займаюцца выхаваньнем дзетак у розных гуртках па інтарэсах. Былыя ленінскія залы пераафармляюцца і набываюць іншае прызначэньне.

**— Дык можа зараз школы наведваюць сьвятары!**

— Не, у нас сьвецкая адукацыя і рэлігійнае выхаваньне ў школах не праводзіцца. Бацькі могуць вадзіць сваіх дзетак дзеля гэтага ў нядзельныя школы, ці праводзіць яго самі. Праўда, ёсьць настаўнікі, якія хацелі адразу весьці дзетак у касьцёл з урокаў. Мы забараняем у час заняткаў такія акцыі. Школа павінна даваць веды і выконваць праграму, якую зацьвердзіў наш урад.

**— Раней у старэйшых клясах абавязкова вывучалася пачатковая вайсковая падрыхтоўка. А як зараз!**

— З гэтага года яна зьліквідавана, і ўведзены новы курс «Дзейнасьць чалавека ў экстрэмальных умовах». Сюды ўваходзіць бясьпека на вадзе, на дарогах, аказаньне першай неабходнай дапамогі і г. д. Плануем, што выкладаць гэты курс змогуць былыя выкладчыкі вайсковай падрыхтоўкі, калі, вядома, пройдуць адпаведную атэстацыю. А калі не, дык тады будзем набіраць адпаведных спэцыялістаў.

**— Ці існуюць у горадзе платныя школы!**

— Пакуль не. Аднак мы ствараем новыя тыпы навучальных установ. Ёсьць гімназія і два ліцэі, дзе ўводзяцца новыя курсы, акрамя праграмных. Па жаданьню дзеці змогуць іх вывучаць, за што бацькам давядзецца даплочваць. Думаю, што такое павінна існаваць ва ўсіх школах, тым больш зараз зьяўляецца шмат цікавых прапаноў непасрэдна ад настаўнікаў. Напрыклад, дзесятая школа прапануе ўвесьці дадатковы курс эканамічнай падрыхтоўкі.

**— Значыць, ня ўсё так дрэнна ў беларускай школе!**

— Усё ж нам патрэбна падтрымаць зараз нашых настаўнікаў, і перш за ўсё, матэрыяльна. Зараз плянуецца падвышэньне заробку на 30%, але ж у сённяшняй сітуацыі гэта ня вырашае пытаньня. Да прыкладу, будаўнікі маюць месячны заробак у 10—12 тысяч, а настаўнік самай высокай катэгорыі — толькі тры тысячы. Думаю, відавочна для усіх, што калі мы ня падтрымаем народную адукацыю, дык наш шлях да новага жыцьця зацягнецца.

**Гутарыў М. КАРНЕВІЧ.**




Фота А. УЛАДАСЕВІЧА




Калі кранеш рукой Каложскіх муроў, адчуваеш, што датыкнуўся да нечага незвычайнага, дарагога. Цёсанае каменьне нібы лашчыць руку. Праз дотык да яго да сэрца адгукаюцца стагодзьдзі. Нашыя продкі ўмелі будаваць, і гэта яскрава бачна ў тых помніках архітэктуры, якія яны заставілі ў спадчыну нашчадкам. Няшмат засталося даўніны на землях Беларусі, дый тая, што засталася, не адчувае да сябе належных адносін. Асаблівае месца ў рээстры нядбайнасьці займае Барысаглебская царква на Каложы ў Горадні — помнік архітэктуры XII стагодзьдзя, які ня мае аналагаў. Нешта падобнае ёсьць толькі на Украіне ў Оўручы, але сапраўднага параўнаньня тут быць ня можа.

Страшэзныя разбурэньні царква спазнала ў часы будоўлі «сьветлай будучыні», калі «будаўнікі камунізму» разламалі залачоны іканастас, зруйнавалі мазаічную падлогу, зьнесьлі купал. Але тыя часы мінулі. Распачалася і адбудова Каложы. Да высакароднай справы далучыліся амаль усе: вернікі зьбіралі грошы, упраўленьне аховы і рэстаўрацыі помнікаў пры гарвыканкаме пачало рыхтаваць дакумэнтацыю для рэстаўрацыйных работ, а філярэт-мітрапаліт Менскі і Гарадзенскі блаславіў айца Аляксандра (у міры Аляксандр Котаў) настаяцелем Каложы.

Наваяўлены бацюшка зь імпэтам і без уліку асаблівасьцей тагачасных архітэктурных традыцый распачаў працы. Хутка ў царкве зьявіўся новы іканастас, а паўднёвая сьцяна была падрыхтавана пад тынкоўку. Кемлівыя вернікі заўважылі памылкі ў дзеях сьвятога айца і спрабавалі давесьці да яго ведама, што так рабіць нельга. Сьцены царквы змураваны зь вельмі цьвёрдага каменьня, паміж якім разьмешчаны галасьнікі для акустыкі, і калі іх затынкаваць, то царква вельмі страціць у сэнсе тэмбравага гучаньня. Але слухаць парады настаяцель не пажадаў.

Набыўшы дрэвавалакністую пліту, ён узьвёў іканастас. Дый тут ня ўлічыў асаблівасьцей і традыцый будаваньня ўнутраных інтэр'ераў Божых Храмаў. Для ўзьвядзеньня іканастаса старажытныя майстры скарыстоўвалі лёгкія гатункі драўніны: клён, ліпу, бярозу, бо менавіта лісьцьвеныя пры высыханьні давалі добрую акустыку й спрыялі агульнаму сінхронна-акустычнаму гукавому ўзмацненьню малебна. Прэсавая фанэра невядома зь якой драўніны магла толькі паглынаць гукі.

Зразумеўшы, што і парады айцец ня слухае, вернікі зьвярнуліся да ўлад, але й тыя не сьпяшаліся з дапамогай, і толькі тады, як са сьвятога храма пачалі зьнікаць ахвяраваныя дываны, іконы, а сьледам і будаматэрыялы, у гарвыканкаме забілі трывогу. Камісію ўзначаліў загадчык па рэстаўрацыі і ахове помнікаў спадар Аляксандр Хамко. У ходзе працы высьветлілася, што зьніклі газасілікатныя блёкі і іконы living розных вартасьці — іх быццам бы ўзяў на рэстаўрацыю сьвятар (ён калісьці вучыўся ў Менскім тэатральна-мастацкім інстытуце). Пасьля адпаведных законаў, як распавёў карэспандэнту А. В. Хамко, частку іконаў айцец Аляксандр вярнуў, а блёкі й дываны зьніклі.

Ці будзе распачата крымінальная справа? Не, бо грошы на набыцьцё будматэрыялаў, ахвяраваныя вернікамі, і ахвяраваныя імі рэчы нікім не падлічваліся і не рэгістраваліся. Камісія паведаміла вынікі сваёй працы ў экзархат. Айца Аляксандра адразу вызвалілі з пасады, і прызначылі на яго месца новага сьвятара Георгія. Як пойдуць справы ў яго, сказаць пакуль цяжка.

Хто ж такі той айцец Аляксандр, якому зь лёгкай рукі Філярэта было дадзена зялёнае сьвятло на дзейнасьць у такой гістарычнай царкве? Хрышчэньне ён прыняў толькі ў дваццаціпяцігадовым узросьце, і то дзякуючы знаёмству з рэгэнтам хору Пакроўскага сабору ў Горадні. Ніколі, атрымліваецца, ня верыў у Бога й яго вучэньне, тым болей не зьбіраўся яму служыць. Але, мабыць, паддаўся спакусе заможна жыць і быць паважаным. Гэта неаднаразова тлумачыла яму стаўшая ўжо яго жонкай рэгэнтша вышэйпамянёнага хору (сам чуў і магу паклясьціся на сьвятой кнізе). Менавіта яна, Нона Якаўлеўна Каляда, якая вырасла ў сям'і сьвятара, выкарыстоўваючы сувязі бацькі, дамаглася такой высокай пасады свайму мужу. Зрабіўшы за тры месяцы яго, чалавека без адпаведнай адукацыі, сьвятаром. З гэтага ўзьнікае пытаньне: а куды глядзелі царкоўныя саноўнікі ў Менску?

Ня хочацца распавядаць пра ўвесь кароткі, але хуткі, рост Аляксандра Котава, бо я ведаю шляхі, якімі ён карыстаўся разам з новымі сваякамі. Тыя шляхі ня робяць пашаны праваслаўнай царкве. І як бы там ня было, але мне вельмі сумна за тое, што адмысловы дыямэнт старажытнай архітэктуры ў Горадні, які адзін можа стварыць нашаму гораду пашану ва ўсім сьвеце, дагэтуль пакінуты на гібеньне.

Аляксандр Васільевіч Хамко распавядаў ня вельмі пэрспэктыўныя пляны для адбудовы помніка архітэктуры беларуска-Візантыйскай школы праваслаўнай царквы. Па сьцьвярджэньнях сп. Хамко, такая школа існавала яшчэ да Маскоўскай, але справы яе і дзейнасьць — глыбокая таямніца для беларусаў, ключы ад якой схаваны ў Маскве. Адрадзіць Каложу — гэта ўсё адно, што зьнішчыць яшчэ адну белую пляму ў гісторыі беларускасьці. Шкада, што дагэтуль няма навукова абгрунтаванай канцэпцыі таго, як вярнуць людзям у першакласным выглядзе гэты помнік памяці. Мо гэта справа ня рухаецца толькі з-за таго, што тут перахлiснуліся ведамасныя інтарэсы. Адны разглядаюць Каложу вузка, як прыход, другія, наадварот, як помнік архітэктуры. Для адных яе стварыў цэласны старажытна-рускі народ, мы ж пераканаваны, што наш беларускі народ існаваў ужо тады. А пакуль бакі шукаюць кампрамісны варыянт, расколіны падмуроўка ўшыркі і доўжкі павялічваюцца, месцамі яны дасягнулі крытычных памераў.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## АЛЕСЬ ЧОБАТ

# СЕМ ДЗЁН АДНАГО СТАГОДЗЬДЗЯ




*Дзень першы*
***КАЛЯДНАЯ ГУТАРКА 1860 ГОДУ***
*— Шляхта бунтуецца! Сон адымае*
*ўладам, бацькам і каханаму краю,*
*цяжка ёй, бачыце, жыць—*
*пэўна, ня хоча рабіць!*
*Мала ім, сукам, маёнтку з фальваркамі,*
*польскімі хочуць зрабіць нас падшпаркамі—*
*досыць ужо гэтых спраў!*
*Цар нам зямлю абяцаў...*

*— Праўду ты кажаш! Во панскія гадзіны!*
*Каб яны войска сюды не ўправадзілі!*
*Сумна ім, бачыце, жыць!*
*Пэўна, ня хочуць рабіць...*
*Што мы, дурныя! Ня цар нас абдзельвае,*
*а распладзілася паньства суцэльнае—*
*хоціць людзей рабаваць,*
*так іх сабачую маць!*

*— Так, браце Саўка! Ад ласкі ад царскае,*
*пэўна, адломіцца нам дабро панскае—*
*будзем па-брацку дзяліць,*
*кожнага трэба любіць!*
*А на пісулькі іх з ласымі смакамі*
*ёсьць у начальства жандары з казакамі—*
*зьведаюць, як бунтаваць,*
*так іх сабачую маць!*

*— Эх, браце Грышка!*
*У сьмерці ўсе раўныя,*
*ды пры жыцьці адны людзі працоўныя,*
*а вось другія — паны,*
*гіцлі, сабачы сыны!*
*Наша мужыцкая доля, сялянская,*
*а ўся Айчына ж іх — польская, панская...*
*Што нам тут — зноў прападаць?!*
*Так іх сабачую маць!..*

*Дзень другі*
***1863 ГОД. РАЗЬВІТАНЬНЕ З РАДЗІМАЙ...***
*Тут шлях адзін у выдуманы рай*
*дае сваім жаўнерам гэты край—*
*на сьнезе запяклася кроў, як хустка,*
*і мрояцца ў прабітай галаве*
*ўсе маскі мёртвыя, і тыя, хто жыве,*
*а холад, сьлёзы, цемра, час і пустка,*
*як павукі, снуюць паволі ніць,*
*бяздушшам, страхам, здрадаю сьмярдзіць,*
*і ўсё, чым жыў, дарэмна прападае,*
*і толькі ў небе ёсьць дачка і ты,*
*спакойны хутар, бераг залаты.*
*Айчына вечная, свабода маладая...*

*Дзень трэці*
***ВЫБРАНЫЯ СЦЭНЫ ГУБЭРНСКАГА МЕСЦА ГОРАДНІ Ў 1866 ГОДЗЕ***
*Сумны, пануры дзень пад Фарным Касьцёлам.*
*Пяхотныя ахвіцэры, жыды, урадоўцы.*
*Поп Мікалай трасе пальцам*
*на пана Малахоўскага:*
*ска-азана ў Пісаньні!—*
*Павязуць усіх палячышак*
*на Сібір пры цары Іосіфе,*
*на-ачыста вытрасуць каталіцкае семя...*

*А пад жыдоўскаю крамай пані Малахоўская*
*сон апавядае пані Дэмбіцкай:*
*конец сьвята юж бэньдзе,*
*прыйдзе немец плюгавы,*
*прозьвішча нібы Гітцэль,—*
*але ўратуе Пан Бог людзей пабожных!*
*Адных жыдоў вымяце жах зь мейсца сэймовэго...*

*А Леон Ройзман бядуе ў краме:*
*сін ужо не габрэй—*
*змарнаваў грошы на пашпарт!*
*Цяпер — Аляксандр Львовіч Раманаў,*
*манархіста расейскі...*
*А чуў, Шмуцусь, што кажа рабін?!*
*У прышлым стагодзьдзі на габрэйскіх могілках*
*ляжа роўнае поле, званае стадыёнам—*
*і голыя прывіды*
*бычы пузыр будуць біць нагамі,*
*разам зь Леона тлёнам...*

*Тымчасам на далоні паручніка Іванова*
*цыганка лёсы чытае:*
*«Сто гадоў царква прастаіць,*
*дзе паручнік браў шлюб з Надзін,*
*маладой і прыгожай,*
*а якую царкву мужыкі ды паны-недабіткі*
*Фарай Вітаўта клічуць упарта,*
*адстаяўшы сваё,*
*узьнясецца на Неба*
*... і пылам каменным асядзе!*
*А месцы тым новых сьвятых*
*на сьцяне-шэрадранцы налепяць,*
*а нядоўга й яны правісяць...».*
*Сам зьбялелы, як сьмерць,*
*цягне шаблю паручнік...*

*Мужыкі ж па дарозе на Скідаль*
*плётку бабскую цягнуць, як малітву да Бога:*
*кажуць, дзесьці ў Амэрыцы*
*шмат зямлі, а паноў ня бывае,*
*чынш ня трэба плаціць...*

*Пасьміхаецца сумна пан Малахоўскі:*
*сам Касьцюшка прынёс ёй свабоду,*
*Амэрыцы вашай,*
*хам-мскае быдла—*
*а вярнуўся хоць гэнералам,*
*а шчэ горшай галотай.*
*— Не кахаеце Польскі...*
*Сумна, страшна, панура.*
*Канца не відаць...*
*Неяк, проста з гулянкі, стане дрэнна*
*папу Мікалаю,*
*пражыве толькі тыдзень.*

*Сын сканае пад Вяткай — застрэліцца*
*пан Малахоўскі.*
*Зубы сціснуўшы, пойдзе ўдава да прыслугі.*
*Леон Ройзман памрэ як габрэй.*
*Сын — усё праматае.*
*Службу скончыць паручнік*
*мэрзлым мясам на Шыпцы крывавай...*

*Сумна. Страшна. Панура.*
*Канца не відаць...*

*Дзень чацьвёрты*
***1976 ГОД. МІНСК. ЦЯПЕР — МЕНСК...***
*Над сталіцай саюзнай рэспублікі*
*ні хмаркі ў спакойным небе.*
*Лепшыя хлопцы зь мястэчак*
*спакойна едуць вучыцца.*
*Нашы савецкія танкі*
*спакойна стаяць на Эльбе.*
*А ў крамах стаяць спакойна*
*гарэлка, цукар, гарчыца.*

*А па-за сталіцай рэспублікі*
*калгаснае жыта красуе.*
*Няма авантуры аўганскай—*
*няма аўгаснкіх гэрояў.*
*Нідзе не відаць беларусаў—*
*ніхто іх не палянізуе.*
*Жывуць спакойныя людзі*
*бяз клопатаў і бяз мрояў.*

*Дзень пяты*
***ПАСТАРАЛЬКА НА 27 ЛІПЕНЯ 1990 ГОДУ, ДЗЕНЬ ДЭКЛЯРАЦЫІ АБ СУВЭРЭНІТЭЦЕ***
*Поўныя боты апілак,*
*дулі ў пустых кішэнях.*
*Гразь, балота і сьмецьце—*
*сьлед белага чалавека.*
*Чыхае трактар савецкі*
*на лёс казённы ды шэры.*
*«Трэба трымацца разам...»,—*
*хворага вучыць калека.*

*Брэша сабака навязаны—*
*вольны хвастом віляе.*
*Галёкае менскае радыё,*
*будзіць родныя гоні.*
*Паведамленьні апошнія*
*правільна паведамляе:*
*«Ня трэба нам вашай Пагоні!*
*ў калгасе ёсьць лепшыя коні!»*

*Але кругом бюракратыя—*
*і ўсё ў галаве мяшаецца:*
*робіш толькі ды робіш,*
*а дзе яна, тая свабода?!*
*Памёр тут адзін начальнік—*
*а ўсіх жа ніяк не зьмяншаецца!..*
*Таму з глыбіняў народных*
*нясецца голас народа:*
*«Замок на сільпе павесілі!*
*Работы — адна толька відзімасьць..*
*Ніхто ні жалеіт дзірэўню—*
*дак эта і вам ні забудзіцца.*
*От Дзімяньцей на сесіі*
*атваюет січас нізавісімасьць,*
*дак быстра сільпо аткроеця,*
*імпэрыялісты прыблудныя!..»*
*Сонная здохлая хмара*
*ляніва лезе на вёску.*
*Карова ляніва лётае—*
*зь лёгкімі крыламі-марамі.*
*Бабы ляніва пляткуюць,*
*што ў беларускім войску*
*жаўнерыкі дземяньцееўскія*
*будуць жвавыя, што камарыкі...*

*Дзень шосты*
***АПОВЯД ШАТЛЯНДЗКАЙ АЎЧАРКІ БОНЫ ПРА СВАЕ КАНІКУЛЫ Ў ВЁСЦЫ БІСКУПЦЫ ЛІДЗКАГА ПАВЕТУ, КАЛІ ГРЫМНУЛА РЭВАЛЮЦЫЯ 1991 ГОДУ, А ТАКСАМА ПАДРОБКА ПА ЯЕ ГАСПАДЫНЮ, ДАНУТУ БІЧЭЛЬ...***
*Лёс у сабакаў сабачы.*
*Пуста ў людзей за душою.*
*Мы з гаспадыняй на дачы*
*марна шукаем спакою.*
*Зьнікла шляхэцкая мужнасьць.*
*Правіць савецкая раса.*
*Братніх народаў садружнасьць*
*зьела сабачае мяса.*
*Цэлае лета пацею.*
*Нешта шукаю па кучах.*
*Кажуць — канец Дземяньцею,*
*зьелі й яго разам з путчам?!*
*Лесам ляціць да Ляжневіч*
*пах самагонкі — як птушка.*
*Менскам кіруе Шушкевіч.*
*Вёскай кіруе чакушка.*
*Морду паклаўшы на лапы,*
*ціха драмлю да абеду.*
*Кажуць вясковыя бабы,*
*што ваюють нас швэды.*
*Нос ня высоўваю з дому:*
*гэта ў маіх інтарэсах.*
*Шастаюць цёткі з райкому,*
*нібы ваўчыцы, па крэсах...*

*Дзень сёмы*
***ЗІМА. СОН ПЕРАД НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЮ...***
*Будуць хлопцам мэдалі,*
*і шынкі, і кралі!..*
*Кожнаму заплоціць Бог—*
*срэбрам і вінам!*
*Змагарамі пабылі,*
*гульні адгулялі—*
*а цяпер сядзяць і п ´юць*
*за чужым сталом...*
*А свайго няма стала,*
*і няма Айчыны,*
*і сьмяецца з хлопцаў тых*
*родны іх народ...*
*Вось і п ´юць ды лёс клянуць—*
*з гэ-эткае прычыны!*
*Вось і страшыць белы сьвет*
*ўжо каторы год!*
*А народ іх — ня дурны.*
*Моцных не чапляе.*
*А працуе на зямлі—*
*хай і нічыёй...*
*... вось і кончыўся народ,*
*і зямля ўмірае,*
*і ўздыхае Бог адзін*
*вечнай цішынёй.*

***ЛІТАРАТУРНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ***

## А. САКОВІЧ

# У НЯВЕДАМ'Е

**В**АЙНА. Лета 1944 году. Наступалі бальшавікі, адступалі немцы. Першымі днямі ліпеня здавалася, што грознай й бязьлітаснай стала вайна й пад Н.

Н.— невялікае места, слаўнае сваёй мінуласьцяй, руінамі старавечнага замку, вежамі касьцёлаў і цэркваў, прыгожымі чыстымі вуліцамі, раськінутымі па ўзгорках, невялікімі ўтульнымі дамкамі, зялёнымі садамі. Ні прадпрыемстваў, ні чыгункі.

На пачатку вайны збамбілі ў Н. немцы рынак, і, каб ня гэта, дык да ліпеня 1944 году вайна для места была б толькі заранiцамі супрацьзэнітнае артылерыі над суседнімі мястэчкамі, далёкімі выбухамі бомбаў, «воўчым вокам», замiж электрычнага сьвятла, вымерлымі вуліцамі ўначы, партызанамі, паліцыяй, Гэтам, расстрэламі, вывазамі й вечным страхам за жыцьцё.

Чулі людзі ў Н. пра зруйнаваныя вялікія месты, пра спаленыя чыста сёлы, пра замінаваныя дарогі; плакалі над доляй голых і босых уцекачоў ды трывожна чакалі. Верылі й ня верылі, што дойдзе бяда й да іх. Але-ткі дайшла. Зашумела й зажыло дзіўным, нязвычайным жыцьцём места. Празь яго пайшлі, адступаючы, войскі. Грукаталі па бруку вайсковыя абозы, замаскаваныя галінамі зялёных хваінаў ці бярозаў, гулі машыны, ішлі калёны стомленых і запыленых нямецкіх жаўнераў. А разам зь імі й уцекачы. Цяжка накладаваныя вазы цягнуліся памалу. Яны часта спыняліся, каб прапусьціць вайскоўцаў. На вазох сядзелі малыя дзеці, хінуліся старыя, іншыя йшлі пехатою побач возу. Мужчыны мелі пугі ці кіі ў руках, вельмі рэдка — нат стрэльбы.

Ванда гадзінамі прастойвала ля брамы. Маладая, стройная, з далікатнымі рысамі твару. Узрушанымі шэра-сінімі глыбокімі вачыма назірала яна гэты нясупынны дзіўны рух, думаючы, што як толькі ейны брат знойдзе каня й воз, яна таксама ўліецца ў гэтую строму.

Калі вазы спыняліся ля брамы, Ванда выносіла сьвежае вады ці малака дзяцям. Людзі дзякавалі й міналі. Твары іхныя былі невясёлыя й заклапочаныя: ад родных хатаў яны адыходзілі ў няведамы сьвет — у няведам ´е.

Нярэдка спыняліся ля брамы й нямецкія жаўнеры, асабліва тыя, што адбіліся ад сваіх аддзелаў ці вырываліся з абступы. Адзін зь іх, босы, папрасіў піць. Ванда паклікала яго ў хату, укроіла хлеба, наліла малака. Малады жаўнер зморана, як стары, апусьціўся на крэсла й выпрастаў перад сабою пакалечаныя спухлыя ногі. Калі ён адыйшоў, Ванда доўга глядзела за ім: глядзела на ягоныя пакалечаныя босыя ногі, глядзела, як цяжка й няпэўна клыпаў ён ходзішчам.

Часам і нямецкія машыны спыняліся блізка брамы. Зь іх зыскоквалі жаўнеры, каб набраць у пляшкі сьвежае вады ці наладзіць папсаваную частку машыны. Сярод іх было шмат зусім хлапчукоў. Гледзячы на іх, Ванда думала, як непадобнае гэтае войска да таго, што наступала ў 1941 годзе. Лёса ўзброенае, яно здавалася тады непераможным.

Неяк паўднём супраць дому на пустым пляцы затрымалася аўта з жаўнерамі. На некаторых зь іх бялеліся сьвежыя перавязкі. Хто зыскочыў з аўта сам, каму дапамагалі. Аднаго вынесьлі й паклалі на траву. Нябожчык. Тут жа пачалі капаць магілу. Відаць было, што дужа сьпяшаюцца. Закруцілі таго ў шынэлю, апусьцілі, насыпалі курганок, паставілі крыж. Пасталі вакол, апусьцілі галовы, старэйшы прачытаў малітву... Загуло аўта. Ад ´ехалі. Застаўся толькі сьвежы курганок у запыленай траве пры дарозе.

— Мама,— казала потым Ваньдзе малая Ялінка,— я яго зблізку бачыла.— Такі малады, як наш Казік. Толькі паўтвару, шыя й рукі былі чырвоныя, як мяса. Мама, чаму яны яго пахавалі?.. Мне здавалася, ён яшчэ дыхаў.

На захадзе сонца Ванда разам із малой пайшла на магілку. Ялінка спляла із рамонкаў вянок і павесіла на крыжы.

— Недзе ў яго ёсьць мама ці сястра, і яны моляцца за яго, як за жывога,— задуменна казала яна Ваньдзе, і звычайна поўныя радасьці й сьвятлыні ейныя дзіцячыя вочы, былі сумныя.

— Божа, чаму так рана маё дзіця мусіць бачыць людзкое гора? — думала Ванда, і сэрца ейнае сьціналася ад жалю, ад прадчуваньня чагосьці страшнога й нямінучага, што насоўвалася на іх.

На крыжы надпіс: Paul Bauer. 1925 — gestorben 1944.

Разам із дачкою нахінулася Ванда над сьвежай магілай. «Вечны супакой дай яму, Божа, а сьвятло бязупыннае няхай яму сьвеціць. Хай спачыне навекі. Аман»,— маліліся яны.

На чацьверты дзень пацішэла ў месьце. Толькі самалёты ды рэдчас грукат адзінотнага вайсковага аўта ці тупат конных патрулёў парушалі гэтую цішу. Бальшыня жыхароў места выехала. Тыя, што засталіся, не адыходзіліся далёка ад сваіх хатаў. На парканах і электрычных стаўпох бялеліся загады ў беларускай і нямецкай мовах: «За рабунак пакінутых гаспадаў — расстрэл на месцы». Казалі, што трох ужо застрэлілі й пакінулі на ходзішчах.

Ванда ўсё яшчэ заставалася ў Н.— ня было каня. Дні стаялі няўсьцерп гарачыя. Яна паадсоўвала на вокнах шчытныя ільняныя запонкі, зробленыя для зацямненьня, паадчыняла ўсе вокны. Нічога не памагала: паветра было душнае й нярухомае (...).

У тыя дні рукі ня краталіся штосьць рабіць. Ванда бяз мэты тулялася па хаце, дакраналася да рэчаў, быццам разьвітвалася зь імі. У хаце было пуста й няўтульна; усё найбольш вартаснае закапалі глыбока пад старой альтанкай у садзе. У вітальні, над вялікім, нічым не засланым дубовым сталом, бы забытая, калыхалася пакіненая шаўковая застка. На канапе — дзяружкі на воз і падушка. Пара куфраў зь ежаю й вопраткаю на падлозе. Патрэбныя дакумэнты й колькі дарагіх здымкаў Ванда даўно зашыла ў торбачку, якую заўсёды насіла пад сукенкай на грудзёх.

Усё было гатова, каб пакінуць родную дамову. Ня было тут больш чаго рабіць. І калі а паўдні забеглася да Ванды ейная былая вучаніца Тамара Міцкевіч, Ванда вельмі ўзрадавалася.

— Даведалася я, спадарыня настаўніца, што вы яшчэ не паехалі, і зайшла разьвітацца.

Тамара была сярэдняга росту й прыгожае постаці. Проста й вясёла глядзелі ейныя ясныя сінія вочы. Гаворачы, яна часта ўсьміхалася. Прыемна было глядзець на гэтую дзяўчыну: маладосьць, прыгаство, радасьць жыцьця чуліся ў кажным ейным руху.

— Дабрыдзень, Тамара,— радасна працягнула ёй руку Ванда.

— Дабрыдзень, спадарыня настаўніца! — Рука дзяўчыны была цьвёрдая, і яна моцна сьціснула Ваньдзіны пальцы.

— Сядайце, Тамара! Расказвайце, адкуль і куды вы. Мо маеце якія навіны? — ветліва казала Ванда, а сама думала: «Якая яна мілая й здаровая, і як добра, што яна падабаецца брату!»

— Навінаў бясконца, але, раней як сесьці, дазвольце напіцца вады. Паміраю піць.

— Мо даць халоднага малака?

— Не, калі ласка, толькі вады й то сьцюдзёнай.

— Я зараз вам прынясу.

— Лепей, калі дазволіце, я сама зьлётаю на кухню й нап ´юся, колькі хочацца.

— Ня можаце ўявіць сабе, як на вуліцы пячэ сонца,— казала Тамара, вярнуўшыся.— Гарачыня немагчымая! А мне ўсе гэтыя дні вандраваць даводзіцца. Зараз загарэю, як паліваны гаршчок.

Ванда засьмяялася:

— Пакуль што сонца валасы вашыя пазалаціла, а скуру зрабіла ражова-бронзавай, і верце: гэта вельмі хараша. Сядайце, калі ласка, на канапу, адпачывайце й расказвайце!

— Шкада, што я толькі часінку магу ў вас пабыць, а расказваць ёсьць чаго. Цікава жыць цяпер! — узрушана гаварыла Тамара.— Мне здаецца, што, каб ня было небясьпекі, ня было за што змагацца, было б сумна й бязмэтна жыць.

— Што да небясьпекі, у нас з вамі зусім розныя густы,— ціха сказала Ванда.— Але расказвайце, дзе вы ў гэткую непакойную пару вандруеце.

— Дзе? Не дасьцё веры. Тры дні ўперад у лесе за Нёмнам была. Колькі там хлопцаў нашых перахоўваюцца! Месца выбралі надзвычайнае: зялёная палянка сярод лесу, а вакол балаты. Улетку праехаць туды немагчыма, і толькі па вузенькай сьцежачцы неяк прабярэшся. Правялі мяне да іх. Але прабачце,— перарвала сваё апавяданьне Тамара,— я не магу вам сказаць, ад каго й да каго я хадзіла.

— Пэўна, Тамара, гаварэце толькі тое, што ўважаеце за магчымае.

— Божа мой! — сьпляснула рукамі дзяўчына.— Сама я ўважаю за магчымае расказаць вам усё, але я дала слова юначкі.

— І вельмі добра, што пільнуецеся. Але кажаце далей. Мне вельмі цікава гэта, бо за колькі дзён і мой брат Казя далучыцца да іх.

* Друкуецца паводле часопіса «Конадні» № 5—6, 1958 г., Мюнхэн-Новы Ёрк.

(Працяг будзе.)

## ЛЕПШ НЯ ПІЦЬ

*У Мастах ужо тры месяцы немагчыма атаварыць талоны гарэлкай, даюць толькі «каляровую» і розныя настойкі. Куды зьнікла гарэлка? Нікуды. Яна ўсё так жа стаіць на паліцах... толькі па свабоднай цане — 204 рублі. І зноў нехта грэе рукі пры маўклівай згодзе мастаўчан. Аналагічнае становішча амаль паўсюдна ў раёнах Горадзеншчыны.*

## НЁМАН МАЕ КАВАРНЫ НОРАЎ

*Нёман сёлета абмялеў як ніколі. Проста пасярэдзіне ракі ў многіх месцах утварыліся плёсы. Такі плыткаводны Нёман быў, па сьведчаньню краязнаўцаў, толькі ў 1881 годзе. Прыемна ўспомніць людзям зараз, як па вадзяной роўнядзі ракі хадзілі параход, катэры. Да Мастоў нават быў адкрыты пасажырскі маршрут.*

*Але Нёман па-ранейшаму мае каварны нораў. У гэтым яшчэ раз пераканаліся дзьве мастаўчанкі, якія вырашылі перайсьці раку. Яны былі блізкімі ўжо да берага, калі трапілі ў падводную яму, пачалі тануць. Калі б не своечасова падасьпеўшы рабочы ВА «Мастоўдрэў» В. Я. Біліда, які выратаваў дзяўчат, магло б адбыцца непапраўнае.*

**Пётр ЖЭБРАК.**



Фота П. АРКАДЗЬДЗЕВА

## ФОТАІНФАРМАЦЫЯ

# НЯРОЎНАЕ СЯБРОЎСТВА

У Горадні існуе школа № 8 з палепшаным навучаньнем францускае мовы, зразумела, што гэтая школа рускамоўная. Але гаворка пра іншае. Яе будынак — звыклая прымітыўная хрушчоўка на вул. Чапаева. Непадалёк школы ёсьць і помнічак яму, які невядома як і навошта апынуўся ў нашым горадзе. Вось і ўвесь гістарычны фон. Зрэшты, камсамольская з піянэрскай школьныя арганізацыі насілі, напэўна, дый носяць дагэтуль імя таго ж Чапая або Паўліка Марозава. Але ня буду гэтага сьцьвярджаць, бо дакладна ня ведаю.

А справа вось у чым. Да вучняў з 8-е школы прыехалі з пабрацімца Горадні французкага горада Ліможа школьнікі зь ліцэя імя фізыка Гэй-Люсака. У нас, як вядома, імёнамі вучоных, а пагатоў нацыянальных гэрояў школы не называлі... Ліможскі ліцэй быў заснаваны ў 1520-х гадох, а прыгожы бараковы будынак пабудаваны ў 1767 годзе. Самі муры дыхаюць гісторыяй. У нас усё інакш.

Зь ліцэістамі ў Горадню прыехала настаўніца расейскай мовы спадарыня Мары-Франс Ванзэль, а таксама рэжысёрка, яна ж і апэратар, спадарыня Сыльві Тэкс ´е, якая рыхтуе фільм аб сяброўстве ліможскіх і гарадзенскіх школьнікаў. Гэтая тэма, аказваецца, уяўляе цікавасьць для 3-й праграмы французкага тэлебачаньня, рэдакцыя якой замовіла і аплаціла выдаткі на фільмаваньне 52-хвіліннай стужкі.

У кастрычніку сёлета нашыя школьнікі маюць у адказ наведаць Лімож. Патрэбны грошы. 3 тысячы даляраў ласкава выдзеліў «Азот» з умовай узяць за гэтыя грошы ў паездку 6 дзяцей працаўнікоў прадпрыемства. Бацькі школьнікаў па-рознаму шукаюць выйсьце. Адна маці чакала ўсё лета, калі ўпадзе цана даляра, а ў выніку ўсяго ўзяла 30-тысячную пазыку й мусіла набыць амэрыканскую валюту замест 140 па 230 рублёў за даляр. У некага іншага бацькі працавалі ўлетку ў цяпліцах у Польшчы, каб толькі адправіць дзіця ў Ліможж. Ёсьць і падобныя іншыя прыклады. Настаўніца тлумачыць: бацькі жадаюць, каб іхнія дзеці маглі атрымаць добрую моўную практыку. Магчыма. Але ж падобная ахвярнасьць мае, мусіць, і іншую, аддаленую мэту: «Можа хоць нашыя дзеці змогуць потым пажыць у іншай, нармальнай краіне».

А што Францыя менавіта нармальная краіна, сьведчыць наступны прыклад. Мой калега — тэлежурналіст і вядомы ў горадзе знаўца французкае мовы сп. Ігар Лякін нядаўна чаргова пабываў у Францыі й распавёў сякія-такія свае ўражаньні з паездкі. Сярэдні заробак у гэтае краіне роўны 18 тысячам франкаў, а мінімальны — 6 тысячам. Памножце, калі ласка, гэтыя сумы на 40 рублёў — цану, якую каштуе 1 франк у нас. Дзіва што французы на здымку гэткія жыцьцярадасныя.

**Бр. ЛЮБАВІЧ.**
**Фота Ў. ВЫДЗЕРКІ.**



# ЛЮДЗКІЯ СУСТРЭЧЫ

### ЗЯМЛЯК...

Я быў вельмі задаволены, калі мне аднойчы ўрэшце прапанавалі адзіночны нумар у гатэлі. Хацелася пажыць аднаму, у спакоі, адпачыць ад працы і жыцьця, ды і не ад кога не залежаць хоць у час адпачынку. Аднак ужо на трэці дзень да мяне ў пакой завітала адміністратар і вельмі перапрашала, што тыдзень мне давядзецца пажыць з сталым мужчынам, які не будзе мне перашкаджаць.

Увечары ў дзьверы моцна пастукалі. Я нават не пасьпеў адказаць, а перада мною ўжо стаяў сівы, худы дзядзька з вырачынымі вачыма. Доўга не думаючы працягнуў мне руку, потым зрабіў заўвагу, што ляжу на ложку і дадаў, што гэта не культурна. Адразу пачаў распытваць, хто я і адкуль, чым займаюся і як шмат грошай трачу на адпачынак. Я не ведаў, што яму адказваць, але па ўзросту ён, сапраўды, падыходзіў мне за бацьку. Аказалася таксама, што — зямляк.

Кожны вечар ён прыходзіў позна і калі дзьверы былі зачынены, то калаціў так, што выходзілі з суседніх пакояў. Да таго ж, кожны раз уваходзячы ў пакой, крычаў: «Встать, когда входят старшие по званию!» Гэта ён рабіў нібыта жартам. Праз два дні яго ведалі ўсе на нашым паверху, нават да жанчын ён уваходзіў у пакой у сваіх паношаных непрыгожых плаўках, маўляў, тут курорт і нічога брыдкага ў гэтым няма. Кожны вечар распавядаў, якія ў яго разумныя дзеці, абодва паскančалі вайсковыя вучылішчы і зараз недзе пад Хабараўскам надзейна абараняюць нашы рубяжы.

А шостай раніцы з грукатам падымаўся і адразу ўключаў тэлевізар, сьмела разгульваў па пакою, напяваючы сабе нешта пад нос, зусім не зважаючы на тое, што ў пакоі спаў я. Я варочаўся, спрабаваў хоць неяк нагадаць пра сваю прысутнасьць, але гэта было безвынікова. Ён не рэагаваў. Толькі ўвечары, калі я трохі заседжваўся каля тэлевізара, ён падымаўся, моўчкі націскаў на кнопку і казаў, што заўтра трэба рана ўставаць.

Аднаго разу паказвалі выступленьне Зянона Пазьняка, і ён адразу запытаўся, ці падтрымліваю яго я. Пачуўшы, што я станоўча стаўлюся да Народнага Фронту, замахаў рукамі і закрычаў: «А што ваш Пазьняк, што ён добрага зрабіў, адно гаворыць без перапынку, а ў крамах ад гэтага не прыбаўляецца». На маё пытаньне, хто з дзяржаўных кіраўнікоў яму бліжэй, бадзёра зноў закрычаў, што вось Машэраў быў чалавек, прыязджаў на поле ў час касавіцы і не грэбаваў простаму чалавеку руку паціснуць.

Пазьней сьмела мне прызнаўся, што з дваццаці гадоў сьвядома быў у шэрагу камуністычнай партыі. І хоць працаваў звычайным шафёрам, гэта не перашкаджала ўдзельнічаць у партыйных канфэрэнцыях, хадзіць на сходы, атрымліваць там падарункі, крытыкаваць ня згодных. Маўляў, і народ жыў добра, не тое, што зараз, усе весяліліся і працавалі, як належыць. Я не ўстрымаўся і запытаў, а як з тымі, што растрэльвалі ў затылак, вывозілі ў Сібір, ім жа, відаць, не да весялосьці?

— Дык, а мы пра гэта нічога не ведалі...

«Так,— думалася мне,— вы ня ведалі і не хацелі пра гэта ведаць, вы адно весяліліся». Я нічога яму не адказаў.

Пазьней даведаўся, што за жыльлё ён нават і не плаціў, прыбіральшчыца апавядала, што гэта даўні сябра адміністратара.

### РЭДКАЕ КАХАНЬНЕ

На пляж я хадзіў адзін, навокал усё незнаёмыя людзі. Неяк аднаго разу завёў гаворку з мужчынам з Чалябінска. Ён таксама ляжаў адзін і ўвесь час аб нечым марыў.

Даведаўшыся, што я з Горадні, аж падхапіўся. Я таксама зьдзівіўся і запытаў, адкуль ён ведае пра мой горад, бо звычайна людзі з Урала пра Горадню ніколі й ня чулі.

Дык вось здарылася, што ў мінулым годзе ён пазнаёміўся на гэтым самым месцы з маладой кабетай з Шчучына. Каханьне зайшло так далёка, што ён самалётам прылятаў у Горадню, наймаў таксоўку, купляў вялізны букет кветак і ехаў з аэрапорта ў Шчучын, а праз дзень вяртаўся назад. Так паўтаралася некалькі разоў.

Чалавек гэты мяне прыемна зьдзівіў, толькі вось у кабеты быў муж-афіцэр і маленькі сын. Давялося растацца...

**Г. Т.**

# АКЦЭНТ НА СПАГАДУ ✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦

*Згодна з калектыўным дагаворам у гэтым годзе адміністрацыя Мастоўскай МПМК-155 прадастаўляе кожнай жанчыне штомесячна адзін аплачваемы вольны дзень — дзень ГАСПАДЫНІ.*

*Усім вядома, што як бы ні йшло грамадства наперад па шляху прагрэсу, у рэальным жыцьці жанчына па-ранейшаму працуе ў дзьве зьмены: адну на вытворчасьці, другую — дома. Але калі гэтая жанчына — будаўнік, то штодзень нагрузкі ўзрастаюць з-за разьязнога характару і цяжкай працы.*

*Вось і вырашылі ў калектыве ўвесьці дадатковы вольны ад працы дзень — дзень гаспадыні, які яна можа ўзяць у любы час месяца па ўласнаму жаданьню — піша Мастоўская раённая газэта «Зара над НЁМАНАМ».*

*Ёсьць і такія водпускі, якія прадастаўляюцца без захаваньня зарплаты, напрыклад, у дні вясельля сваякоў, а таксама бацькам, якія маюць дзяцей-школьнікаў,— у першы дзень заняткаў.*

**Пётр ЖЭБРАК.**

Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына». Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ.

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не заўсёды могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Індэкс 63124.
Выходзіць штодватыдні па пятніцах.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня, 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Тыраж 2057 асобнікаў. Замова № 3638
Нумар падпісаны да друку 10.IX 1992 г. у 17.00.